

*Першая кніга паэта*

МІКОЛА МІНЧАНКА

# ЗЯЛЁНЫ ЗВОН

*МІКОЛА МІНЧАНКА*

# ЗЯЛЁНЫ ЗВОН



Малады паэт Мікола Мінчанка нарадзіўся 10 сакавіка 1942 года ў вёсцы Кавалёўка Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Закончыўшы Мілаславіцкую дзесяцігодку, працаваў загадчыкам Кавалёўскага сельскага клуба. Пасля службы ў Савецкай Арміі паступіў у Жытомірскі педінстытут на філфак, які скончыў у 1968 годзе.

Цяпер працуе карэспандэнтам-арганізатарам Клімавіцкага раённага радыёвяшчання.

Нізкі вершаў маладога паэта друкаваліся ў газетах «Звязда» і «Чырвоная змена», часопісе «Маладосць».

# ХАТА МАЯ ПАД ВЯЗАМІ

Хата мая пад вязамі, —
Іх бацька калісьці садзіў.
Хата мая прывязана
Сцяжынкай да родных ніў.

У садзе спеюць антонаўкі,
Аж радасна дыхаць зямлі.
А было: тут будзёнаўкамі
Галовы хлопцаў цвілі.

А было: хлопцы нашы вясковыя
У партызаны ішлі праз сад,
Каб цёплыя дні вясновыя
Вярнуць назаўсёды назад.

## ШЧАСЦЕ

Журавы над краем
пралятаюць.
Нам на памяць пёры пакідаюць.
Хто іх знойдзе —
будзе век шчаслівы,
Тых абходзяць буры,
злыя ліўні...

Я шукаю год ужо каторы —
Толькі не знаходжу
тыя пёры...
Я з дажджоў смяюся,
з навальніцы,
Не хацеў я буры пакланіцца...

І шаптаў мне часта
бор марозны:
«Ну чаму ты, хлопец,
гэткі грозны?»
А сябры,
спаткаўшы на вакзале,
«Ты шчаслівы», —
шчыра мне сказалі.

## СПАДЧЫНА

Мне трэба у спадчыну слава бацькоўская,
Песня матулі з бярозавым сокам,
І поле, і неба вясны васільковае
З бязмежжам яго высокім.

Мне трэба у спадчыну ранне турботнае,
І мазалі шчырых рук працавітых,
І дом каб глядзеў наш на вуліцу вокнамі,
Каб сын памятаў і жывых і забітых.

Мне трэба у спадчыну вера вялікая
У сілу жыцця, яго прамяністасць.
Каб вечна ў дарогу трывожную клікала
Будзённасць нялёгкая і ўрачыстасць.

* * *

Бягуць, смяюцца ручайкі,
А каля іх стаяць гурбой
І лодачкі пускаюць хлапчукі,
Услед махаючы рукой.

«Плывіце ўдаль... Удаль!» —
Крычаць.
І лодачкі плывуць, плывуць...
А дзе іх трэба сустракаць?
Куды іх воды занясуць?

## У ЛЕСЕ

Цэлы дзень
На вадзе
Сонечны прамень.
Кожны дзень
Ваду п'е
Там алень.
Цэлы дзень
Лес вядзе
Гутарку з зямлёй...
Хай заўжды
Малады
Ён расце на ёй...

## НА ТАКАВІШЧЫ

Усю ноч,
аж да самай раніцы,
З гонарам высакародным
Аб нечым цяцеркі раяцца,
Бы грукаюць скавародамі.
А ледзь дасвецце разыграецца, —
Цецерукі на бой збіраюцца...
Глядзіць на бойку цяцёрка,
Выбірае сабе вартага...
Ім на вяселлі не крыкнуць
«Горка»,
Бо для вяселля
Піва не варыцца.
Удваіх яны —
Келіх шчасця,
Якое песняй кахання вяжыцца
І песню кахання
У рання
Ў красці
Толькі нікчэмны адважыцца.

* * *

Ластаўкі снавалі угары.
Дзень ласкавы. Спёка не пякла.
Бегала дзяўчынка па двары
І рукой лавіла матылька.

Ну а ён, падняўшыся, пятляў
І садзіўся зноў непадалёк.
Для малой была уся зямля,
Быццам той няўлоўны матылёк.

Ні дарог пакуль што, ні трывог...
Чысты смех нікому не адняць.
І танцуе ля дзіцячых ног
Матылёк — жывая кветка дня.

* * *

Цецерукова трывога «ку-гу!»
Перапоўніла раніцу сонцам.
І праганяе песня тугу,
Вясну запрашаючы ў госці.

Маўчыць сёння шчыры жаўрук,
Ды заўтра ён першы прачнецца
І з ласкавых сонечных рук
Праменняў у небе нап'ецца.

Па вуліцы неўтаймаваны ручэй
Прамчыць, нібы песня жывая...
Ці ёсць дзесьці песні званчэй
За песні бацькоўскага краю?

## ДАРОГА

Па небе вухкае пярун.
Куе маланкі ён да бою.
Дарога ўецца, як уюн.
Шафёр, глядзі ў абое!

А дождж сыпнуў!
А дождж звініць!
Гляджу: бярозка на узлессі
Да клёна цягнецца, трымціць, —
Яна уся — каханню песня.

У перуноў, напэўна, баль:
То ўспыхнуць, то пагаснуць свечкі.
А можа мой сусед-каваль
Куе у кузні вечнасць?

Ён жартаўнік. Ён можа ўсё.
Куе, куе, што людзям трэба...
Як добра ўсё-такі, што ёсць
Каваль, пярун, зямля і неба!

## БРАТУ

Ізноў табе прысніўся сон,
Што бацька наш вярнуўся
І, паглядзеўшы на сяло,
Ён шчыра усміхнуўся.

Ён усміхнуўся. Шапку зняў.
Сказаў да нас: «Сыны,
За тое я жыццё аддаў,
Каб не было вайны».

Не спіш. Прачнуўся ты даўно,
І ціха ў роднай хаце.
— Здаецца, грукнулі ў акно, —
Табе гаворыць маці.

— Ды не, матуля, гэта клён...—
Дарэмна ёй не спіцца...
Загінуў бацька, але ён
Жывы усім нам сніцца.

## КРЫЛЫ

Што было —
навечна адбалела:
У жыцця дарог назад няма.
Галава
у мамы пабялела —
Так за восенню
ідзе зіма...

Мама! Мама!..
Сумаваць не трэба.
Ну навошта гэты
чорны сум?
Паглядзі,
якое сёння неба!
Хочаш —
сонца ў хату
прынясу!

Ціха ў хаце.
Маці вышывае
Ручнікі,
зялёныя лісты...

І запахлі ў хаце,
нібы ў маі,
Бэзу забуялыя лісты.

І вясна мне
прыбаўляе сілы...
Вышывае маці
дзіўны цвет.

. . . . . . . . . . . . . . .

Ручнікі
на сценах,
нібы крылы,
На якіх лячу я
ў белы свет!

* * *

Дажджы, як ачмурэлыя, шумяць,
Змываюць восені тугу з парэчак.
Дадому еду. Адчуваю — маці
Не спіць перад сустрэчай.

Яна сама не ведае, чаму
Ёй сон ніяк не плюшчыць вочы.
Пастукаю. Матулю абніму,
Пачую роднае: «Сыночак!..»

Сляза з вачэй. І нейкі сум.
Праз тыдзень зноў іду ў дарогу...
Не чамадан я з дому панясу,
А матчыну нялёгкую трывогу.

## РОДНАЕ

Жыта ў родным полі,
Вольхі над ракою
Лашчыць родны вецер
Лёгкаю рукою.

Дарагія сцежкі,
Ціхае світанне...
Тут адчуў я ў сэрцы
Светлае каханне.

Мілая радзіма!
Жыць мне век табою:
Тваім чыстым раннем,
Радасцю, журбою.

Мілая радзіма!
Свет мой ясназоры!
У вачах у маці
Сінь тваіх азёраў.

## ГОСЦІ

— А чагосьці, а чагосьці
Не танцуюць сёння госці?
А чагосьці, а чагосьці
Не спяваюць сёння госці?
— Эх, чарачка,
Сакатушачка,
Як жа мне цябе не выпіць,
Мая душачка?! —
Піў Максім, выпіваў,
Галавою ківаў.
І любіў гаварыць:
— Няхай ліха гарыць!
— А чагосьці, а чагосьці
Не спяваюць сёння госці?
А чагосьці, а чагосьці
Не танцуюць сёння госці?
— Эх, трах, трах-бах,
Лісты на дубах! —
І пайшоў Максім.
Стала весела ўсім.
То прысядзе, то прытопне,
Будуць доўга людзі помніць,
Як стагнала падлога,

Як крычаў Максім:
— Га!
Забалела нага.
Забалела другая.
А я гуляю!
Не ўтрывала Сцепаніда:
— Эх, бяда!
Дзе тут вада?
— Не ваду — п'ю гарэлку,
Каб сэрца гарэла...
Каб сэрца любіла...
Каб была ў мяне сіла,
Я б пайшла за Максіма.
— Эх, трах, трах-бах,
Лісты на дубах!

* * *

Цесту у дзежцы цесна,
Значыць, раніца набухае.
Раніца, як нявеста,
Сарамлівыя вочы адкрывае.

У цёплым шчаслівым гаме
Птушкі любоўна песцяцца.
І сонца праменнямі-нагамі
Падымаецца па нябачнай лесвіцы.

На нашым
цёплым прыпечку
У дзежцы чуваць шаптанне...
Устала маці, каб выпечы
Хлеб.
А можа — новае ранне?

* * *

Калі сады цвітуць
Асенняй пазалотай,
А неба хмурыцца
І холадна яму, —
Мая ты родная,
Ты плачаш зноў
употай...
Цяпер я толькі
зразумеў — чаму?

Ішла імкліва
Па жыццёвай лесвіцы.
Табе сягоння
Горка прыгадаць,
Што лёс цябе,
Любімая,
не песціў:
Удавою засталася
У дваццаць пяць...

* * *

Прашчуры мае ў баях мужалі.
І выводзілі сыноў на добры шлях.
Памыляліся парою і сцвярджалі,
Што трымаецца зямля на трох кітах.

Раніца шчаслівая пачынаецца.
Лашчыць нашы шчокі цеплынёй...
Не на трох кітах зямля трымаецца —
На далонях мацеры маёй.

* * *

Калі сумуюць клёны пад акном
І павукі развесяць свае сеці, —
Я ўспамінаю свой драўляны дом,
Які мілей мне за усё на свеце.

О родны дом! І ліп духмяны цвет!
Мной песні лепшыя пра вас не спеты.
Па-мойму, кожны чалавек—паэт,
Калі цяплом радзімы ён сагрэты.

* * *

Жоўты-жоўты язмін цвіце,
Перад вечарам неба жоўтае.
Месяц плыве
У чаўне
Па рацэ
І ціха нагамі боўтае,
Нібы суседскі хлапчук,
Ды не ў ваду,
А за хмару нырае...

Дзяцінства!..
І зноў я хачу
Адчуць, як яно дагарае.

* * *

Не заўсёды ўсміхалася сонейка,
Не заўжды нас вітала песнямі...
У сяброў маіх бяссонніца:
Трывожна жывуць равеснікі.

Не скора зямля супакоіцца,
Загоіць старыя раны...
А можа зямля расколецца
І не будзе на ёй больш рання?

Ужо колькі планета верціцца,
Аб ёй мой адвечны роздум...
О людзі! Я веру сэрцам,
Што пераможа розум!

* * *

Змарыўшыся за дзень,
жанчына спала.
І невядома,
ёй сніўся сон ці не?
...Сярпом сягоння,
жыта яна жала,
А вечар вельмі
ядрана сінеў...

Апоўначы,
калі зямля ірдзела
І маладзік
зазубраны вісеў, —
У акно жанчына
толькі паглядзела,
І прашапталі вусны:
«Ну, як серп!»

* * *

Адгрымелі даўно
Авацыі
Цяжкай,
Зморанай
Перамозе.
А куды?
А чаму
Авіяцыя
Падымаецца
Па трывозе?

Не!
Не ціха яшчэ
У гэтым свеце
Напружаным,
Неспакойна...
Людзі!
Зрабіце,
Каб дзеці
Больш
Не ведалі
Войнаў!!!

* * *

Мужчыны
збяруцца —
Хутчэй
за палітыку!
Помняць мінулае
моцна яны.
Знаюць —
хтось сучыць
суровую нітку,
Страшэнную нітку
новай вайны...

Вось дзядзька,
сусед мой,
Трывожна гаворыць:
В'етнам
і Лаос...
Забіваюць людзей...
Эпоха ж такая,
што можна без гора...
Ды стогне надрыўна
паранены дзень!

Трывожна на многіх
далёкіх граніцах,
Шмат дзе на зямлі
праліваецца кроў...»
І дзядзькавы вочы,
як дзве навальніцы,
Здаецца, маланкай
ударадь з-пад броў!

## ДЗЯДЗЬКА

«Айн, цвай...»
А ён просіць: «Не трэба,
Услых не вучы.
Не магу».
Над намі, як макаўка,
Чыстае неба.
Дзядзька на сонцы
Грэе нагу.

«Дзень быў такі ж,
Але месершміты...»
Пахне вясна.
Дурманіць нас бэз.
Дзядзька, як бусел
Куляй падбіты,
Сушыць на сонцы
Пратэз.

## АТАКА

Яшчэ не цвіў на снезе мак —
Яшчэ не граў крывёю студзень.
Прад навальніцаю атак
Нам цішыня сціскала грудзі.

Яшчэ не лез у вочы дым,
Ніхто ад раны не хістаўся.
З нас кожны думаў аб сваім:
Жывым застацца спадзяваўся.

Ды вось ужо прыйшла пара...
І сэрцаў стук — прыбой адзіны.
Над полем грознае «ура!» —
Ідуць у бой сыны Айчыны.

Ужо атакі не стрымаць:
Мацней металу нашы грудзі...
Не разбярэш: на снезе мак
Ці кроў?
Навошта гэта,
людзі?!

* * *

Паміралі родныя пад дуламі.
Злой, чужой гаворкі колькі чуў!
О, маё балючае мінулае,
Да цябе вяртацца не хачу.

Адбалела тое гора — полымя.
І сіроцкай крыўды боль зачах...
Каб сыны народжаныя помнілі, —
Смерць бацькоў стаіць яшчэ ў вачах.

І бываю часта я зажураны,
Як гляджу на радасных дзяцей.
О, няўжо і ім над амбразурамі
Давядзецца сэрцам халадзець?

Кіне ў пот мяне ад гэтых роздумаў.
Заставацца ж не хачу глухім, —
Чую крыкі ворагаў я грозных —
І трымаю порах свой сухім!

Паміралі родныя пад дуламі.
Злой, чужой гаворкі колькі чуў!
О, маё балючае мінулае,
Да цябе вяртацца не хачу.

3 Заказ 802

## ДЗВЕ ПЕСНІ

Ты спяваеш песні тыя,
Дзе мая вясна звініць.
Але чую і другія,
Ад якіх душа баліць.

Ты спяваеш аб каханні.
Што ж, спявай, мой друг, спявай,
Сваё першае спатканне
Ты нідзе не забывай.

А над полем, а над полем
Не, не хмарка праплыла.
Песню суму, песню болю
Праспявала удава.

* * *

Заraслі травой акопы.
Іх выкошваем касой.
Цішыня. Заснулі копы.
Пахне сенам і расой.

І здаецца, нібы вечнасць
Не было зусім вайны.
Цішыня. Яна, як лекар,
Зноў бінтуе нашы сны.

* * *

Прабілася
На тратуары
Дрэўца.
Лісток яму
Ад сонца
Сілу даў...
А што,
Як выпадкова
Ён сарвецца?
. . . . . . . . . . .
З тым дрэўцам
Бы і я
Зачах,
Завяў...

## НА УКРАІНЕ

Ў маім сэрцы Украіна,
Нібы тая маці.
Я жыву шчаслівым сынам
У чыстай белай хаце.

Я жыву на Украіне
Год ужо каторы...
Толькі сняцца раннем сінім
Іншыя прасторы.

Толькі часта сніцца поле,
Дзе туманы ходзяць.
Месяц коней без паводдзя
На начлегі водзіць.

Толькі сніцца: селі гусі
На палях шырокіх...
Вее ветрам з Беларусі,
Мілай і далёкай.

## ЖАР-ПТУШКА

Вечар мяккі
Свой абажур
Накінуў на цёплыя далі.
Сем суседак —
Сем прыгажунь —
Клумбы з кветкамі палівалі.

На каромыслах вёдры насілі...
Ранак прыціх:
Ён убачыў на небасхіле
Сем каромыслаў тых...
Усміхнуўся старэнькі дзед,
І старога такое ўзварушыць.
Ён на вясёлку як след
Паглядзеў...
І прыдумаў
Для ўнукаў
Жар-птушку.

* * *

О, лёгкі сум някошаных атаў,
Завея цёплая бярозавай лістоты!
Я зноў да вас сягоння завітаў.
І вы ў мяне пытаецеся: «Хто ты?»

Лугі! Лясы! Я вас не разлюбіў!
Шчаслівы, я блукаю зноў на ўзлессі.
Я той, хто тут, калісь спаткаўшы песню,
На ўсё жыццё спакой свой загубіў.

## ЭКСПРОМТ

— А ці добрыя, цётка, вішні?
— Ды, сыночак, якія выйшлі.
А на пясчаным пагорку
Два сівыя дзяды
вядуць гаворку:
— Раней яблыкі былі саладзейшыя...
— Не, то мы былі маладзейшыя.
— Даўней песні спявалі званчэй.
— Эт, не баўся, ідзі хутчэй.
— І цвярдзейшыя былі дарогі...
— Не цягні вось, старэча, ногі...

* * *

Я самы вольны віцязь
На радаснай зямлі.
«Шукай свой светлы Кіцеж!» —
Крычаць мне жураўлі.

Не казку я шукаю,
Шукаю неспакой,
Радзіма дарагая,
Навекі я з табой!

Табе, мая краіна,
У вольнасці звінець.
З табою век, Айчына,
Журыцца мне і пець.

## ЗЯМЛІ

Што там,
на другіх планетах,
Ты яшчэ
не ведаеш, Зямля?
Можа там
стагоў духмятых лета
Настаўляла?
Можа там зіма?

І калі сягнуць
да зорак людзі,
На другіх планетах
стануць жыць, —
І тады людское сэрца
будзе
Аб зямельцы-мацеры
тужыць!

## СВІТАННЕ

*Хв. Чэрню*

Раніца ружовіцца усмешкай,
Тушыць зоры у бязмежжы даляў.
Міг яшчэ, і на расістых сцежках
Ззяе сонца тысячай караляў.

Цеплынёю сінява ўсплывае,
Свежасцю, як песняй, поўніць грудзі.
І зямля нас радасна вітае:
— Добрай раніцы, людзі!

* * *

І лес бывае безгалосы,
Калі сухмень накіне цень,
Калі дажджу чакаюць плёсы
У непаўторнай немаце.

На свеце ёсць благія цуды.
І я навек запомніў дзень:
Зямлі патрэсканыя губы
Вады прасілі у людзей.

* * *

Здаецца, кветкі ўсе завялі.
Ці можа гэта свет заснуў?
Ударыў гром бы па раялю
І музыку дажджу сыпнуў.

А ён аж пеў, вясёлы, звонкі!
І доўга шчодра, шчыра ліў...
Заціх...
На небе дзве вясёлкі —
Падковы шчасця для зямлі.

* * *

Абмацваюць неба радары.
— Ёсць мішэнь... —
І маўчанне.
Ад цябе мы чакаем радасці,
Наша новае, непаўторнае, ранне.

Беражом мы ўласнымі нервамі
Цішыню.
Людзі, верце,
Што зямля ляціць не па інерцыі —
Па жаданню нашага сэрца.

* * *

Не чутна ліпеньскіх актаў.
У хлебароба лоб салёны:
У вёску жнівень завітаў,
Каб скласці лета ў стог саломы.

Ў засекі звезены ячмень
Аж грае сонечным адлівам!..
На полі ж трактар цэлы дзень
Пяе, што хутка будуць ліўні.

Імклівы — зябліва арэ...
Сягоння ціха на ўзлессі.
І скора упадзе арэх
Апошняй жураўлінай песняй.

* * *

Дажынаюць лета конікі,
Дзесьці восень гарбузамі коціцца,
Упадзе яна даспелым яблыкам,
Празвінеўшы песняй зябліка.

Дажынаюць лета конікі,
І на развітанне з сваім домікам
З сумнай і трывожнай асалодаю
Шпак вядзе апошнюю рапсодыю.

Дажынаюць лета конікі,
Месяцам халодным стане сонейка.
І калі наўколле чыстае застыне —
Жураўлі развесяць восень на асіне.

## ЛЫЖНЯ

Марозны дзень.
Імклівы бег.
Мы так чакалі
Сённяшняга дня!
Бялюткі снег.
Вясёлы смех.
Імклівая і звонкая
Лыжня.

Крычу:
— Лыжню!
Шапчу:
— Люблю-ю...
І ўсё іду,
Іду я за табой,
Іду!
А ты маўчыш.
А ты бяжыш...
Я даганю!
На шчасце
Ці бяду?

* * *

Сарваўшы рамонак,
Дзяўчына гадае.
Ёй хочацца ведаць
Ці любы кахае.

Ці праўду гаворыць,
Ёй гледзячы ў вочы,
Або насмяяцца
Ён з шчырасці хоча?

Уздыхае дзяўчына...
І хочацца верыць —
Ёй сэрца хлапчына
Адкрые, як дзверы...

* * *

Такое мілае дасвецце,
Што я цябе не адпусціў...
Прайшоў з касой па лузе вецер,
Вясны пачатак закасіў.

І знік.
А нас яшчэ чакае
Нямала шчасця,
[illegible] горыч згуб...
З вясною кожнай
адкрываем
Мы тайну слоў
І слодыч губ...

* * *

*Галіне Ратушнай*

Сонца ў ранішнім бляску
Узышло з-за сяла.
Мне так хочацца ласкі,
Залатога цяпла.

Век наш дужа кароткі,
Нібы ранак вясны.
Сняцца лодкі і лодкі.
Можа б ты прыйшла ў сны?

Можа лодкі — дарога?
Мо — адзнака бяды?
Ну чаму дужа строга
Так глядзіш ты заўжды?

Усміхніся. З табою
Жыць шчаслівa маглі б...
Пахне ранне расою,
Хмельным водарам ліп.

* * *

Я цябе парою дакараю,
Што з табою дужа сумна быць...
Мне б вады напіцца ў сваім краі,
Каб ізноў смяяцца і любіць.

І калі ад суму ў роце горка,
Аб прычыне мне не варажыць,—
Мне б расою з роднага рамонка
Толькі ледзьве губы асвяжыць.

ЗМЕСТ

**Мінчанка М.**

Зялёны звон. Вершы. Мн., «Беларусь», 1971. 56 с. 2000 экз. 12 к.

Першая кніжка маладога паэта вызначаецца свежасцю, лірычнай цеплынёй. Дружба, каханне, клопат аб сённяшнім дні — вось галоўная тэма вершаў.

7-4-3 / 159-71 Бел 2 М 62

На белорусском языке

Николай Никифорович Минченко

ЗЕЛЕНЫЙ ЗВОН

Издательство «Беларусь» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Минск, Ленинский проспект, 79.

Рэдактар М. Ваданосаў. Мастак Ст. Кавалёў. Мастацкі рэдактар М. Шырокаў. Тэхнічны рэдактар Г. Федарук. Карэктар Я. Харко.

АТ 12701. Здадзена ў набор 28/IV 1971 г. Падп. да друку 12/VII 1971 г. Тыраж 2000 экз. Фармат $60 \times 84^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 1,64. Уч.-выд. арк. 1,12. Зак. 802. Цана 12 кап.
Друкарня «Чырвоны друкар» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку. Мінск, зав. Калініна, 12.

